АНДРЭЙ АЛЕКСАНДРОВІЧ

# УГРУНЬ

ВЫДАНЬНЕ ДРУГОЕ

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК—1928

. . . . . . . . . . .

*Як добра жыць!*
*Цаглінкаю румянай*
*Будуем новыя, нязнаныя нам дні...*

# ВІРАТЛІВЫ РАЗЬБЕГ

## НОВЫ ГОД

І з году ў год
і кожны год
крыштальным стыжам
слаўся лёд.

Як з году ў год,
як кожны год,
прышоў на лыжах
Новы Год.

Мінае ноч,
прасьнецца дзень.
За працай, глянеш,—
градам пот.

Было адно,
як млявы цень
ішоў хістаньнем
Новы Год.

Як цень ішоў,
пад лязг зубоў
лілася кроў
над кручаю.

Была журба
і галыцьба
і барацьба
гаручая.

Адно цяпер,
віецца верш,
нібы заранкі
сьмелы ўзьлёт.

Вязе нам песьні
з паднябесься
у зорных санках
Новы Год.

Мо' хто й ня рад—
на новы лад
вядзем мы
дні і ночы.

Ня ў першы год
к нам Новы Год
ідзе
чорнарабочым.

Імчыцца ўгрунь
жыцьця разьбег,
як сьнег
далінай
вольніцай.

Як з году ў год,
як кожны год,
народ
        за працай
        клоніцца!

31. XII. 26

## САСНА

### 1

Вось адно, як струна,
сасонка расла
у бязьмежным
бары-гушчары.
А сягоньня яна
пачарнеўшы лягла
на асьнежным
фабрычным двары.

Загудзела піла,
застагнала сасна;
пры дарозе,
як сьлёзы, апілкі.
Сасонка расла,
як струна,
не адна—
з ёй і сёстры, як тыя асілкі.

Расла маладзіцай,
вяршынаю сьмела
зьвінела
і ў сьцюжу-завею.

Бывала імчыцца
вей-вецер
і вецьце
лёгкім напевам авее...

І птушкі-вясьнянкі
сасонцы
да сонца
зайграюць на гусьлях зялёных...
Цяпер, як скала,
скамянеўшы лягла,
закрыўшы галінкамі скроні.

2

Эх, сасоньніца-сасна,—
дні суровыя...
Бервяно да бервяна—
хата новая.
Дый спрадвечная дрыгва,
нібы раніца,
Буйным цьветам хараства
зарумяніцца.
Гаратлівасьці былой
час пазбыцца нам.
Забудуем шыр балот
камяніцамі.
Эх, сасоньніца-сасна,—
дні суровыя...
Бервяно да бервяна—
хата новая.

## 3

Цяжкая праца, нялёгкая праца,
цяжка, браты, беднаце будавацца.
Капейку, другую за працай зьбярэм мы,
злыдзень змарнуе,—зьбіралі дарэмна.
Шмат каму нашае сёньня варожа
гатовы атрутай,
— чорнай пакутай,
— чорнай пакутай
стрыножыць!

Чэшуцца рукі спрадвечных зладзеяў,
рвуцца стрыножыць, дый сіл не стае ім!
Корчыцца помста ў іх сэрцы
здрантвелым...
А глянеш наўкола—будуюцца сьмела!
Праца віхрыста ўзьняла завіруху—
і хочаш ня хочаш:
— а песьню рабочых,
песьню рабочых
— слухай:

## 4

Гэй-жа, разам!
Гэй-жа, разам!
Гэй, адразу
возьмем
разам!
Гуртам!
Дружна!

— Хлопцы, здужым!
Гэй, яшчэ!
яшчэ!
яшчэ!
Будзе сонца
зьзяць ярчэй.
Што ня стане
ў час рабочы?
Ў нас і камень
зарагоча!
Гэй!
Адважна!
Ўсё для нас!
Дай, наляжам,
друж-на!
... Раз!

## 5

Эх, сасосьніца-сасна,—
нашы дні суровыя.
Бервяно да бервяна,—
хата новая.
Дзе-ж раскінута багна—
вырастуць дуброваю:
за сасонкаю сасна—
сосны новыя!

1926 г.

## ВАРТАЎНІК

### 1

Ночанька цёмная голаву зьвесіла.
— Сумны ты, дружа?
Знаю, ня весела.

### 2

Шорах пачуецца, постаць находзе,
думка адна: бязумоўна, злодзей.
Хто-ж яго ведае, хто разгадае?
Кажуць, што ночанька гора ствярае.
Крамы жалезныя. Сэрца слабое.
Страх неразлучны з праклятаю цьмою.

### 3

Часта ўначы валацугі праходзяць,
ведаеш, дружа, ня кожны з іх злодзей.
Часам бывае падыйдзе каторы,
дасьць закурыць, ад душы пагаворыць,
сядзе ля крамы, такі ўжо ў іх звычай,—
сьмела, ня бойся ты іх, вартаўнічы.

## 4

Глуха на вуліцы. Скованы камень.
Зьзяе ліхтар, нібы зорка ў тумане.
Гутарка з стрэхамі, страшна пароюцемень заводзіць сыпучай імглою.
Холадна. Жудасна. Ногі слабеюць.
Сэрца ў трывозе начной ледзянее.

## 5

Знаю, ня весела. Ночка цягучая
цемрай васеньняю так надакучыла!

. . . . . . .

... Але як дворнік старэнькі устане—
думкі ўзьвіюцца,—радасьць сьвітаньня.

15. X. 26

## ГАЗЭТЧЫК

Ад самай раніцы, застыўшы ўвесь ад сьцюжы,
стаіць з газэтамі ля крамы на рагу.
Па бруку носіцца, мяцеліцаю кружыць
грукат гораду, звычайны грукат-гул...

Вецер і мароз—ну проста дух займаюць,
а ён крычыць, схапіўшы бляск навін:
— Чан Кай-шы—нам здрадзіў у Кітаі.
— Кат Пілсудзкі топіцца ў крыві.

— Троцкі з Сталіным ня хоча пагадзіцца...
— У Менску хутка ўжо залязгае трамвай!
І так ад раніцы навіны б'юць крыніцай,
І так за дзень—рубель, а можа два...

Над белым горадам зазьзяюць ясна зоркі,
на вуліцах дрыжыць вітрын электра-сьвет...
З „апошніх вестак" скруціць ён махоркі
— і дамоў з астаткамі газэт.

На печцы цёплай ён журналы разглядае,
у вочы сонныя залазіць чорны дым—

і скроні мёрзлыя спакойна зачыняе:
заўецца сон вяночкам залатым.

А раніцаю зноў—няхай мароз, завея,
няхай трашчыць старая галава—
у горад сунецца, і сэрца ледзянее,
і зноў за дзень—рубель, а можа два...

# Г У Д К І

**Малодшым маім тавары-
шам — дзецям працоўных
Савецкай і Заходняй Бе-
ларусі—
прысьвячаю.**

## 1

Як толькі ноч суровая
за набасхіл зьбяжыць,
зарніца каляровая
над краем задрыжыць.
Устануць і зьбіраюцца
на поле мужыкі,
а ў горадзе ўзьвіваюцца—
гудкі... гудкі...

## 2

Рабочыя адважныя
на фабрыку ідуць—
хутчэй пазбыць сярмяжную
нам спадчыну бяду.

У вёску з самажнейкамі
імчацца цягнікі.
Пачуюцца з жалейкамі—
гудкі... гудкі...

### 3

Як глянеш, сэрца радуе:
будуем новы лад.
У кожнай хаце радыё
і радасьць зацьвіла.
Была дрыгва далінаю
праз цэлыя вякі,—
цяпер гудуць машынныя—
гудкі... гудкі...

### 4

А сонца шле праменьні нам,
вось быццам на папас.
Мы помнім, помнім—Леніна
ня стала сярод нас.
І змоўклі над краінаю
сякеры, малаткі:
заплакалі хвілінаю—
гудкі... гудкі...

### 5

З песьнямі агністымі
і крэпнем і расьцём.

Мы будзем комуністымі—
на зьмену мы ідзём.
Мы будзем абаронаю,
мы ўсе—франтавікі,
хай клічуць нас чырвоныя—
гудкі... гудкі...

## ВЯНОК

Сумны сёньня дом дзіцячы,
ня зьвініць крылаты!
І вось вецер быццам плача—
скрыўджаны утратай.

* * *

Бяспрытульная дзяўчынка
згінула—змарнела.
Хлеба чорнага скарынку
тыднямі ня мела.

Што-ж рабіць? Каму схіліцца?
Дзе знайсьці збавеньне?
Сохне твар, як жоўталісьце,
сохне ў сутарэньні.

На работу дзе наняцца,
дый гадкоў-жа восем.
Хто там дасьць якую працу,
дый каго папросіш?

Цяжка, цяжка і сьцюдзёна
і няма прыпынку:

ні матулі, ні знаёмых,—
бедная дзяўчынка.

Горам лютым ветры выюць,
асушаюць сьлёзы.
Сэрца плача. Грудзі ныюць,
Страх нясуць марозы.

Як заўсёды, ой, бадай іх,
дні бядой ляцелі
і, як баецца у байцы,
сірату сустрэлі.

У прытулак наш забралі,
і лягчэй ёй стала.
Але вуліца бяз жалю
сілу падарвала.

Шанавалі—даглядалі
любую сястрыцу.
Ўвечар песьні ёй сьпявалі,
толькі-б ня журыцца.

Толькі-б вось каб сум закінуць
і ня ўспомніць гора.
Зьвіць дзяўчынцы-сірацінцы
радасьць з ясных зорак.

Але сёньня цёмнай ноччу
сэрца замаўчала
і жыцьцё, як той лісточак,
з дрэва адарвала.

Над пагорбленай царквою
завывае вецер.
Апавітае імглою
зашумела вецьце.

Сумна-сумна над курганам
ставяць дамавіну.
Сэрца жудасьцю нязнанай
рвецца ў сьвет—даліну.

А наўкол крыжы, магілы,
помнікі, капліцы.
Ой, шкада дзяўчынкі мілай,
Ой, шкада сястрыцы.

Ня сьціхае шум зялёны,
жаласьліва-хмурны;
ў гэтым шуме засмучоным,
быццам звон хаўтурны.

Захісталіся бярозы,
як сіроты плачуць,
нібы сьвечы пры дарозе,
сьвечы, няінача.

Разьвітаньнем дзеці-дружкі
боль ў вянок зьвівалі,—
напісалі на істужцы:
— Сіроцінцы Галі.

12. IX. 26 г.

# КРЫЎДА

**Акадэмічнай канфэрэнцыі па пытаньню рэформы беларускага правапісу і азбукі —**
**прысьвячаю.**

Няхай імгла,
няхай імклівіць восень,
няхай вятры акутваюць выцьцём.
О, дні крылатыя!
Нікога мы ня просім
авеяць радасьцю юнацкае жыцьцё!

Паклоны біць?
— Вясьне вясёлка-тканай,
дый пералівам сонечных крыніц.
Як добра жыць!
Цаглінкаю румянай
будуеш новыя, нязнаныя нам дні.

Пяшчоты радасьці
вірліва-творчай працы,
як песьня звонкая,

як прозалаць—агонь,
агорнуць ласкава
і нават дзіўна, братцы,
ня чуе зморнасьці юнацкая далонь.

Бывае ўсё-ж
і сумна часам стане,
крыўдай лёгка сэрца разгнявіць.
Ёсьць-жа людзі з доўгімі вушамі,
але ці варта толькі гаварыць.

Няхай туга
зьвіе цябе часамі
у вечар восені, у вечар мітульгі,
тады прыпомніцца
і жудасна мне стане,
— сьвет забыты, сьвет другі.

А сёньня—мо' таму, што восень
сьцюдзёным сьвістам
ладзіць свой звычай—
крыўду горкую успомніць давялося!
—А як забыць?
Люблю-ж я родны край!

І слова мне
так дорага і блізка;
ў сугуччы гордых слоў
крыляцца дні цяпер!
Сабраліся...
Няма гаручай іскры!
Гатовы выкрасьліць любімае мне „р“.

А хто адважыцца
поэму дзён бурлівых
бяз „р“—
сьлюнявасьцю лірычнай апяваць?
Забыліся!
Забыліся на дзіва...
Ну, што-ж!
Як сьцелецца,
дык так і будзе спаць!
Адно, што сэрца радуе бязьмежна:
вечны гоман вуліц гарадзкіх,
як зоркі ясныя,
як месяц беласьнежны,
як шэлест працы моцнае рукі.
Няхай імгла,
няхай імклівіць восень,
няхай вятры раскідваюць выцьцё.
О, дні крылатыя!
Нікога мы ня просім
авеяць радасьцю юнацкае жыцьцё.

Сьнежань 1926 г.

## МІНІСТР

О, Бэрлін! Вялікі горад!
Прывітаньне! Guten tag!
Над асфальтавым прасторам,
як і ў нас, крыляцца зоры —
ды інакшы толькі сьцяг.

Два жыцьці... На Фрыдрыхштрассэ —
неўгамонны п'яны шквал.
За рэклямнаю прыкрасай,
гордай сілай, змрочным часам
завадзкі стаіць квартал.

Там бяда гасьцём звычайным
і на скронях кроплі сьлёз.
Там... сягоньня, хоць патайна,
творацъ злучана, адчайна
для краіны лепшы лёс.

Белай плыньню хвалі Рэйна
б'юцца злосна ў берагі.
Энгельс, Маркс, Ласаль і Гэйне
чулі ў хвалях веснавейных
гоман родны, дарагі.

А ў піўных пяюць цыгане,
звон бакалаў, пляска, сьвіст.
У кутку сядзіць, як глянеш,
бяспрытульны віленчанін—
бэ-эн-эраўскі міністр.

Грудзі ныюць, высыхаюць,
за душою ні рубля.
Па далёкім родным краі
сум агортвае-зьвівае,—
як-ні-як—свая зямля.

Там Дзьвіна і слаўны Нёман
даражэй, чым горад Рэйн.
Там пачуеш звонкі гоман,
там і Віцебск, там і Гомель...
Эх, хутчэй-бы, эх хутчэй!

І у думках ён імчыцца
праз фокстроты і джаз-банд...
— Вось у Менску, у сталіцы,
правіць роднаю зямліцай—
і зганяе прэч туман.

Думкі зьніклі... Рэкашэтам
злосьць кідала яго ў жар.
Беларусь над цэлым сьветам,
як Расія—край Саветаў
і абраны камісар...

Дні плылі... Міналі годы...
Зьмен віхрыстых ён чакаў.

Ня ўсьміхнулася пагода,
беларускаму народу
ліст раскаяньня прыслаў:

..."Думаў так, а вышла гэтак;
рвуцца ў даль за годам год.
Ў Беларусі ўсё саветы,
шлях аздобіў агняцьветам
шматпакутны наш народ.

О, прымі мяне, як сына,
шчыры шлю табе паклон.
Разам зробім для краіны,—
зробім—лепшыя хвіліны,
стрэнем радасьць новых дзён".

І задумаўся, а сьцюжай
камянела ў жылах кроў...
Калі ехаць—значыць дружна,
працаваць, як сьлед, напружна,
бо... змагу вярнуцца зноў.

І сабраўся наш народзе—
і рабочы і мужык—
і ўхвалілі: хай прыходзе
бо, як кажуць, не зашкодзе
ў кожнай хаце лішні цьвік...

## ФАБРЫКА СЬМЕРЦІ

Краіна родная! Дарогі крыжавыя!
Скажэце гоманам нахмураных прысад:
— Глумілі нас фэльдфэбелі Расіі,
як быццам поле ў бур у буйны град.

Дарыла торбы нам, жабрачыя дарыла
„культура“ чорная разьюшаных баяр.
На струны з нас зьдзіралі нашы жылы,
смакталі кроў памешчык і жандар.

Сьвету яснага ня бачыў край вякамі,
грудзі кволыя сьціскаў халодны мур.
Слова роднае закоўвалася ў камень,
народ наш знаў: турму і сьмертны шнур.

Прайшлі гады... Народ з няволі выйшаў.
Жыцьцё інакшае спаткала Беларусь.
Але мы помнім, помнім на Лукішках
быў павешаны адважны наш Кастусь.

І сёньня... там... у загранічных ботах
жандары-найміты крываваю разьнёй
нашых змучаных братоў за польскі
„злоты“
зьвярына катуюць, накінуўшысь грунём.

Зарасьлі былі сьляды баяр праклятых,
загінуў бляск фэльдфэбельскіх пагон.
А сёньня... там... будуюць казематы!
А сёньня... там... няведамы прыгон!

Па сьпінах мужыкоў ангельскі сьвішча
шомпал,
гуляе паншчына—нікчэмны чорнацьвет.
Чаго-ж маўчыць культурная Эўропа?
Крык зьняволеных даносіцца ў сусьвет!

Зноў Лукіскіх камер не хапае,
зноў шляхі афарбавала кроў...
Што-ж паноў разьюшаных стрымае?
Правіць турмамі Пілсудзкі-Мураўёў!

Але шляхі адважнага змаганьня
ня змые паншчына кіпучаю крывёй.
Надыйдзе новае, агністае сьвітаньне
Сярпа і Молата над злучанай зямлёй.

...Краіна родная! Дарогі крыжавыя!
Гудзеце гоманам нахмураных прысад:
— Польшча сёньня, як царская Расія—
краіна сьмерці!.. Краіна цёмных крат!..

## БЕЛАРУСКАЯ МАРСЭЛЬЕЗА

> На працэсе Беларускай Сялянска-Рабочай Грамады ў Вільні абаронца Сьмяркоўскі, руйнуючы тэзісы пракуратуры аб змове, якая нібы-та была ў грамадаўцаў, сказаў:
>
> **— „Магчыма, змова была ў тым, што сьпявалі беларускі гімн. Пракуроры кажуць, што ў гэтым гімне ёсьць вострыя і цьвёрдыя словы“.**
>
> *(„Савецкая Беларусь“, 13/V 28 г.)*

Сілу забраўшы, параніўшы грудзі,
родную мову імкнуцца забраць.
— „Сьмяюцца над намі багатыя людзі,
здаецца, панамі іх зваць“.

Сьмяюцца—загнаўшы працоўных за краты,
сьмяюцца—да сьлёз над бядой галыцьбы.
Знаем мы—блізяцца штурмы й расплата,
віхры ліхой барацьбы!

— „Што трэба свабоды, зямлі чалавеку“,
чуеш, гучыць над зямлёю, як гром?
Досыць! Даволі! Мы спалі адвеку...
Запалім-жа сэрца агнём!

Бяз хлеба, бяз грошай, нібы ў бездарожжы,
усюды ганяюць, сьмяюцца і кпяць.
— „Мы доўга цярпелі, цярпець больш ня
можам,
дык пойдзем мы долі шукаць“.

Дык пойдзем, здабудзем агнём і мячамі...
Гэй, Беларусь, мы здабудзем, гэй!
— „Хай нас сустрэнуць палямі, лясамі
Грамады працоўных людзей“.

Час той настане, адкінем абрэзы
і судзьдзямі будзем, ня шляхта, а мы.
І родныя словы сваёй марсэльезы
з гордасьцю выйдуць з турмы!

## ПАНСКІ ПАДАРУНАК

*(Да прысуду над „Грамадой“)*

І ляціць бязьмежжам
вецер, як на крыльлях.
— Межы, толькі межы
радасьць засланілі.

*

Там забралі права
думаць, толькі думаць!
Чорная расправа—
панскі падарунак.

*

З панскага абліччу
дай сарвем завесу,—
колькі там налічым
жудасных процэсаў!

*

Чую крык нястрымны
полем і лясамі:
*лепшы сын краіны*
*сёньня катаржанін.*

*

Ляскаюць кайданы,—
ў катаргу магнаты
люд закатаваны
гоняць з казематаў.

*

Знаем мы, ў палацах
крыецца яднаньне—
майстраў провакацый,
лютасьці й выгнаньня.

*

Толькі дзеці працы
Сёл, мястэчак, местаў
сілай дэмонстрацый
шлюць свае протэсты.

*

Хай гучыць нястрымна
глеба пад нагамі:
лепшы сын краіны
сёньня катаржанін.

*

Хай разьлёгся вужам
дрот, радзіўшы стогны.
Але не! Ня здужаць
Беларусь мільёнаў!

*

Чую я заўсёды,
чую й ня дзіўлюся—
ўзойдзе й там пагода
Савецкай Беларусі!..

## ТАВАРЫШЫ, З НАМІ ВЯСНА

Стройся калёнай, жалезная сіла,
чуеш фабрычны гудок?
— З намі вясна! Уздымам шматкрылым
сэрца гаручае запалаліла,
як-бы электрычны ток.
З намі вясна! Таварышы, з намі!
Рукі прасьцерла праменьнем жыцьця.
Сонцам шматструнным,
маёвым сьвітаньнем
зьвіла пераможны Чырвоны сьцяг.

Колькі запалу, адвагі і веры
крыецца ў сіле рабочых калён.
Валамі шторму
рушацца ўперад,
на штурм заклікае
змаганьня закон.
Бяз страху —
жыцьцё аддавалі на плаху.
Бяз страху, бяз жалю
змаганьне вялі.

Ворагаў білі размахам
напорным,
шляхам
праcторным
наперад ішлі.

Славу здабытую дзён пераможных
стальлю гартуе фабрычны варстат.
А думкі крыляцца, імкнуцца трывожна
ў краіну, дзе даваць адценьнямі крат.
Ў краіну разьюшанай банды магнатаў,
дзе прагнуць, каб зьнішчыць, бясьсьледна, на
звод
прадажныя людзі: жандар, провокатар—
на суд вядучы беларускі народ!

Таварышы, гэй!
Народ беларускі!
Хай разгараецца прозалаць зор.
Гнеў чалавека, напружыўшы мускул,
судзьдзям напіша агнём прыгавор.
Магнаты, баяры, усе—
бязумоўна
гнуцца ў паклон залатому рублю.
Рвуць скарыстаць, каб суцішыць працоўных—
аэро, гідро—
ваду і зямлю.

І вырваць мову!
І вырваць рукі—

Хто,
якой сілай
краіну сагне?
— Дый не!
ніколі!
адны пагудкі.
Ня вырвaць мову!
Ніколі! Не!
Таварышы, гэй! Заўсёды адважна—
каб толькі...
бяз панікі, ўперад—угрунь!
На полі, на бруку
загінем, паляжам,
адно ўсё-ж запалім
ў відалях
зару.

Думкі, як іскры, ружовым сьвітаньнем,
думкі, як іскры, асьвечваюць шлях.
— З намі вясна!
— Таварышы, з намі!
— Трымайце горда
Чырвоны сьцяг!

## ПАДАРОЖЖА

> ... І ў горад замызганы ў прочкі
> пайшоў я з бярозавым кіем...
> ... Сабака правёў да прысадаў
> і назад невясёла памуляў...
>
> *Язэп Пушча*

Раніцай—рана,
чуць сьвет зарою
зальле пазалотаю нашу зямлю,—
пайду ў Падарожжа, пайду даліною,
моладасьць ветла прасторам схілю.

Сінім туманам,
расою сасновай
вочы прамыю, песьню гукну!
Разам з заросшай зялёнай дубровай
шэлестам лісьцяў сябе апрану.

Пайду праз балоты...
Гэй, гэй, дрыгвою!
Сустрэну я вербаў раскіданы шум.
Ці простаю сьцежкай іду ці крывою—
радасьць у сэрцы сваім нашу.

Вышаў я ў сьвет...
Дарога цяжкая...
Імкненьне—адно што ўцяшае, заве.
Дарогай сялянку за працай спаткаў я.
Ўсьміхнуўся ў вачох яе вольны сусьвет...

Імкненьні юнацтва...
Гэй, гэй, Падарожжа,
вечнае сонца, радасны кліч!
Наша жыцьцё навальніца ня зможа
ў родных прасторах бязьмежнай зямлі.

Няхай сутарэньне
мяне прабачае,
пайду па шляхох беларускіх далін.
Пайду я па вёсках, бо іх пакідаюць,
ня вывеўшы ў полі заросшы палын.

У горад ідуць...
Да прысадаў сабака,
шавелячы хвост, прабяжыць усьлед.
Іх ня прывабіла сілай ніякай
хата-чытальня, ячэйка, савет...

З жыцьцём нясуладзіўшы,
як на чужыне,
пакінуўшы вёску, сьціраюць асфальт.
Любоў да жыцьця
няпрыкметна ў іх стыне,
ня вабіць іх заўтрага сьветлая даль.

А горад бязьлітасны,
горад бурлівы,
— зьнямог,—
ён ня спыніць крылаты свой бег!
... Бяспрытульнымі
песьнямі выюць нудліва,
праз сьлёзы ўзьнімаюць асінавы сьмех.

Ім не ўдалося
з горадам зжыцца,
дзіка ім песьня сталёвых машын
Горад іх давіць, як пылам кастрыца,
як вёску іх родную горкі палын.

Кожнае слова іх
смутак зьвівае,
быццам бясьсільлем хварэе ўдава.
Эх, Беларусь ты мая, залатая
згіне дарма не адна галава!
Няўжо гэтак цяжка
на новай пуціне
радасьцю ўсеяць дзянёчкі свае?
Няўжо праглыне іх карчмы багавіньне,
дый сум замагільны на век абвіе?..

Пайду я прасторам
лясной Беларусі,
пайду па шляхох беларускіх далін.
Горад, мой родны, я не зракуся
Гучных мэлёдый сталёвых машын.

Толькі прайду я
далінай вазёраў,
там—пакарчуем палын-траву.
Зноў я вярнуся, вярнуся ў свой горад
і пакланюся яго хараству...

Полацак, 1926 г.

* * *

І сонца, як сонца,
і дзень, як дзень,
ідзеш каля брамы—
на браме цень.

Дзесятая восень
з пагардай прышла.
А вецер, як вецер,
імгла, як імгла.

Вось толькі ў грудзёх,
вось у сэрцы адным—
шчасьце віецца
пярсьцёнкам, як дым.

Шчасьце вялікае,
радасны ўздым—
з гораду ў горад
нясуць гарады.

Гмахі ўзрасьлі,
дзе трухнела дрыгва.
О, слаўлю цябе я,
зямля хараства!..

Лістапад 1927 г.

# ВІРАТЛІВЫ РАЗЬБЕГ

## 1

Бадзёрыя дні!
Сонцатканыя словы,
як хваля, шумліва
ўзьвіваецца верш.

Сьцежкаю воваю,
працай вірлівай
нязнаныя дні
спатыкаем цяпер.

Шчасьцем агністым,
вясьняна-бурлістым
думкі крыляцца віхрыста
угрунь.

Радасьцю сьветлай,
як сэрца поэта,
цьвіце залацiста
мая Беларусь!

## 2

— Чаму? Я ня знаю,
як ветліва гляне
сонейка тканае
ў вей-харастве.

Я ўспамінаю:
песьню й паданьне,
возера й замак,—
былы чорнацьвет.

Гнулі, ой, гнулі
народную сілу
няволяй паганай
да жвіру-зямлі.

Прайшло! Прамінула!
Жыцьцё ўскаласіла
зернем румяным
прывольных хвілін.

І лютая сьцюжа,
і вецер расхрыстань,
ніколі ня здужаюць
сілы віхрыстай.

Словам мужычым,
як радасьць, свабодным,
словам гаручым,
як прозалаць зор,
дні акрынічым

крыніцаю роднай,
прымусім сугуччам
разьліцца простор.

### 3

Часта ў над вечар.
вось быццам, як звычай,
думцы схілюся,
цалую жыцьцё.

Ї чую, як шэпча
пасёлак фабрычны:
— Для Беларусі
расьцём, расьцём.

Расьцём для краіны
такой невялікай,
якой мы павінны
ў лагчынах балот

заўтрае клікаць
сталёвай машынай,
узьняўшы няўпынны
дзён сьветлых узьлёт.

Ці-ж мы, маладыя,
ня любім даліну
муроў каменістых,
як гордых скал?

Дні залатыя
авеяць павінны
песьняй віхрастай
фабрычны квартал!

У шэрым завулку
разносіцца гулка
і ў цёмныя ночы,
і ў сонечны дзень

скрогат суровы
машыны сталёвай,
як песьня рабочых
агнём з грудзей.

Бывае нявесела
стане часамі,
гул праглыне,
як увосень багна.

Голаву зьвесіць
(бо сэрца ня камень),
а працы ня кіне
рабочы юнак.

— Таварыш, даволі!
Змарыліся рукі!
Хвіліну, чакай,
Не астынуць агні!

Хай сьцішыцца грукат,
як вецер у полі,

машыну стрымай,
— адпачні!

Машына—ня грудзі,—
ня зморыцца ў працы,
колы—ня рукі,—
ня будуць слабець.

Вечнасьцю будзе
пераліваццца
гоманам гулкім
машыны разьбег.

Юнацкія сілы,
ой, лёгка патраціць.
Бяз сонца, цягуча
прасунуцца дні.

А трэба, мой браце,
каб нас атуліла
каханьнем гаручым
барвовасьць зарніц.

4

Часта ў над вечар,
вось быццам, як звычай,
зоранькам шустрым
схіляю паклон.

Сэрца мне шэпча,
таемна ў надзвычай,—
выйдзем насустрач
вялікіх дзён.

Выйдзем, няйначай
як з песьняй прывольнай,
дружнай грамадай
ў бязьмежжа зямлі.

Многа патрачана,
знойдзена болей.
Знойдзена радасьць
нязнаных хвілін.

## 5

О, воля юнацтва—
пара захапленьняў!
Адвага! Бадзёрасьць!
Вірлівая кроў!

Віюцца за працай
мае лятуценьні,
як чайка над морам,
як сьмелы арол.

Думанькі рвуцца,
віюцца вяночкам,
часамі бурліва
ўзьнімаюць мяцеж.

Як быццам лісточкі
вясною віюцца,
юнацтвам шчасьлівым
зьвіваючы верш.

Сьнежань 1926 г.

## СТРУНА

Крані струну ў грудзёх сваіх,
струна шматзвонная зайграе,
зазвоніць песьня залатая—
крані струну у грудзёх сваіх.
Крыляцца думкі, як страі,
і ціха шэпчуць па-над краем:
крані струну ў грудзёх сваіх,
струна шматзвонная зайграе.

## ПРАСТОР КАЗАЦКАЙ КОНЬНІЦЫ

Сонца
у дзіўных скалах
славу нам снавала.

Арол
на небасхіле
у праменьнях грэе крыльля.

Горы,
шлях арліны,
цалуюць сінь вяршынай.

Даліны
ветравольніцы
простор казацкай коньніцы.

* * *

Я схіліў чупрыну,
ўзышоўшы на скалу:
горам і далінам,
сонцу і арлу.

1926 г. Каўказ.

## ШТОРМ

Што шуміш так, мора,
гулам нясьціханым,
гулам хвалі чорнай,
хвалі раззлаванай?

Чуць відно, далёка,
там, на небасхіле—
парус адзінокі
ў хвалях абясьсілеў.

Дый вятры ганяюць...
Жудасна ў палоне.
Белай пенай грае
страшнае прадоньне.

Кончыцца бядою,
толькі так, няйначай.
Абвіе журбою
вецер кут рыбачы.

А каму па сілах
дужацца са штормам?
Вецер над магілай
хваляю прыгорне.

Шумна чайкі строем
спуджана крыляцца:
сьмерць не за гарою,
страшна аглядацца!

І гудзіць-жа мора
гулам нясьціханым,
гулам хвалі чорнай,
хвалі раззлаванай.

Жыў рыбак на сьвеце,—
рыбака ня стала.
Гоніць злосны вецер
шквалам вал за валам.

Сімеіз, ліпень, 1927 г.

## МЯЦЕЛІЦА

Мяцеліца. Сьцюжа.
Сьняжынкі кружаць...
Вецер галосіць,
разносіць
бель.
Сьцюжа,
мяцеліца
сьцелецца,
кружыць
гульліва,
жартліва,
нібы карусель.

* * *

Што нам мяцеліца?
Што завіруха?
Што нашу моладасьць
зможа стрымаць?
Сьнег весяліцца
ліхой пацярухай?
Няхай весяліцца—
на тое—зіма!
Люблю, калі санкі

завулкамі носяць,
дый звонкія бомы
стрыножваюць сон.
Песьняй люблю я
у сьвята прыносіць
у хату рабочага
нізкі паклон.
Люблю я на лыжах
асьнежнай далінай
імчацца ў прастор
срэбрашумных завей.
Што маладому
ў прывольнай краіне
як радасьць жыцьця—
даражэй?

* * *

Думанькі сьветлыя
ўсьмешкаю ветлаю
вейна віюцца,
ткуць радасьці ўзор.
Сьцюжа,
мяцеліца
сьцелецца,
кружыць.
Звонам
сьцюдзёным
вітаюць прастор...

1926 г.. XII.

## ВЯСНА ІДЗЕ...

Дзень чаканы,
дзень румяны,
дзень праменных струн,
дзень вясеньніх
лятуценьняў
к нам імчыцца ўгрунь!

На спатканьне
звонкім раньнем
выйду ў сьвет-прастор.
Гляну, гляну—
дзень вясьняны
выплыве з-за гор.
Пры дарозе
тры бярозы,
тры бярозы ў рад
Дзень вясновы
шчырым словам
клічуць на пасад.
Цёмнасіняй
злоснай плыньню
мчыцца-рвецца лёд.

Сонца спаліць
і бяз жалю
срэбраны сумёт.

Дзень вясеньніх
лятуценьняў
к нам імчыцца ўгрунь!
Выйду, гляну:
дзень жаданы,
дзень праменных струн...

5. IV. 27 г.

# ВОЗЕРА

Ціхай гутаркай возера шэпча ў бары,
гнуцца сосны ад буйнага ветру.
Сонца гасіць ліхтар свой на скалах гары
і зьнікае ў няведамай нетры.

Ветрык змоўк... Цішыня... Веснавейны змрок.
Рдзее прозалаць зорак яскравых.
Пахмурнелі кусты, не шасьцяць і лісты,
толькі чуюцца песні-праявы.

Пакорная ночанька звонкай вясьне
шалясьценьнямі славу зьвівае.
Месячык выплыў у срэбным чаўне—
баравое жыцьцё аглядае...

## ЗОРКА

Зорка, ой, зоранька
ветла міргае.
Хуценька-скоранька
рань заіграе.

Гулкі фабрычны
гудок пранясецца,
сілай крынічнай
работа пальлецца.

Літара к літары—
гучнае слова.
Радасьцю зьвітае,
радасьцю новай.

Працай, як сонцам,
засьвеціць яскрава
роднай старонцы
багатая слава.

Цёмная зоранька
ціха зьнікае.
Хуценька-скоранька
рань заіграе.

1926 г.

## ШАЛЯСЬЦЕНЬНЕ НЯЗНАНЫХ ПЯШЧОТ...

*Бэці*

### I

Сустрэліся ў вечар, авеяны
шалясьценьне нязнаных пяшчот.
Штосьці сэрца маё паланее,
нібы ўзбурана крыкам няўзгод.

Я ня знаю, аднойчы казалі,
што каханьне ўсё роўна, як дым,—
узьвіецца пярсьцёнкамі ў далях,
ну і зараз-жа гінуць сьляды.

Я ня знаю, а мне вось даволі,
а што блізіцца, што да таго?
Буду сэрцам гульліва сваволіць,
пакуль не астыне агонь.

Больш ня будзе, чым быць павінна.
Эх, моладасьць, нібы стацьцё
цёмназорыя вочы дзяўчыны
і мне завязалі жыцьцё.

## II

Сустрэліся ў вечар, авеяны
шалясьценьнем нязнаных пяшчот.
Неба цёмнае зоркамі ўсеена—
значыць пройдзе вясёласьцю год.

Так, здаецца, у нас варажылі
ў навагоднюю ночку калісь;
і ўзьвіваліся радасьці крыльля
ў задуменную зорную высь.

А ўсё роўна, ці зоркі мігаюць,
ці сьлязьлівыя хмары ляглі.
З нас ніхто і ня знаў і ня знае,
як жыцьцё варажбой атуліць.

Дый ці ростань стаіць перад намі,
каб аддацца ліхой варажбе?
Нашы дні—не маўклівы камень,
а шчасьлівы юнацкі разьбег!

## III

Румянцам зара па-над садам
заіграла, як твар юнака.
Я сустрэў цёмназорую радасьць,
цёмназорую радасьць спаткаў.

Дык чаго маладому журыцца,
разьлівацца мілоснай сьлязой?
Ці-ж ня лепш узьвівацца крыніцай—
гучных песень вясны залатой?

А вось глянеш, усхліпваюць людзі,
і сьлюнявяць вірлівыя дні.
Так бывае, калі хто заблудзіць
даліной жыцьцявейных зарніц.

Можа ў старасьці й мне сумна стане,
а сёньня чаго сумаваць?
Забыцьцём атуляе каханьне,
рассыпаючы хмель хараства.

## IV

Сустрэліся ў вечар, авеяны
шалясьценьнем нязнаных пяшчот.
Ня прышоў-бы, падумала: дзе ён?
З сэрца вырваўся-б думак узьлёт.

Ну, дзяўчына і сэрца ў дзяўчыны,
а у сэрцы—палаюць агні
залатога спатканьня хвіліны,
залатыя юнацкія дні.

Сустрэліся! Хто-ж яго знае!
Я ня мог да яе ня прыйсьці.
Можа й дрэнна, што гэтак кахаю,
як нікога ніколі ў жыцьці.

Больш ня будзе—хоць можа й павінна;
Эх, моладасьць, нібы стацьцё,
цёмназорыя вочы дзяўчыны
і мне завязалі жыцьцё.

6. XII. 26 г.

